# Тыднёвік Магілёўскі

№ 9 (150) 1 — 7 сакавіка 2002 г. Кошт 100 руб.


СУД У ШКЛОВЕ

## Пяцёра падсудных на адну маску





Фота аўтара тэксту

***У аўторак, 26-га лютага ўзнавіўся судовы працэс над шклоўскімі юнакамі Максімам Патупчыкам, Міхасём Кісялёвым, Дзянісам Сенакосавым, Аляксандрам Паўловічам і Зьміцерам Шалашковым.***

***Нагадаем, што іх абвінавачваюць у парушэньні артыкулу 368 Крымінальнага кодэксу: абраза прэзыдэнта РБ. Спачатку другога паседжаньня суду па заяве падсудных адбылася замена адваката на больш дасьведчанага ў крымінальных справах.***

***Новы адвакат, спадар Супелка, пасьля азнаямленьня са справай адразу заявіў пра неабходнасьць паўторнага допыту некаторых сьведкаў. А пракурор замовіў жаданьне выклікаць у суд сьледчага, які вёў гэтую справу.***

***Тым часам двое сьведкаў па справе – бабулькі 1917-га і 1920гг. нараджэньня – заявілі ў залі суду пра тое, што ў свой час падпісалі пратакол допыту не чытаючы, а нікога з хлопцаў, што сядзяць на лаве падсудных, ня ведаюць і не пазнаюць. Паказаньні ст.сэржанта дарожна-паставой службы А.Кіргізава і ягонай жонкі, што таксама ўдзельнічаюць у працэсе ў якасьці сьведкаў, рэзка разыйшліся. Жанчына, у адрозьненьне ад мужа, ня здолела вызначыць сярод падсудных юнака, які 14-га жніўня мінулага году дэманстраваў у грамадзкім месцы "маску чалавека з вусамі". А менавіта гэтую маску пракуратура і сьледчы вызнаюць за абразьлівую "маску Лукашэнкі", з-за чаго й судзяць маладых людзей.***

***Аднак памочнік пракурора сп-ня Алданава, што падтрымлівае абвінавачваньне, зноў, як і падчас першага паседжаньня, ня мела, на думку прадстаўнікоў праваабарончых арганізацыяў, якія назіраюць за працэсам, бездакорных доказаў складу злачынства. Відаць, таму яна больш націскала на эмацыйны бок жнівеньскага здарэньня ў вёсцы Гарадзец.***

***Заключнае паседжаньне суду, як гэта было абвешчана ў часе справаздачнага, мелася адбыцца ўчора. "Тыднёвік" (з прычыны тэхналёгіі свайго выхаду ў сьвет) зможа паінфармаваць чытачоў аб ім толькі ў наступным нумары.***

***Дзяніс НОВІКАЎ***

## У рэальнасьці – іначай

***Днямі ў сьвеце адзначаўся Міжнародны дзень роднай мовы, які ўвяла ў 1999г. Генэральная канфэрэнцыя UNESCO з мэтай захаваньня моваў, што апынуліся на мяжы зьнікненьня.***

У Беларусі, якая ёсьць сябрам UNESCO, Міжнародны дзень роднай мовы не адзначаўся. І гэта пры тым, што на цяперашні дзень толькі 29% вучняў навучаюцца ў школах па-беларуску. Вядома, што пасьля ганебнага рэфэрэндуму 1995г. улады шырока выкарыстоўваюць ягоныя вынікі ў сваіх мэтах. Напрыклад, бацькоўскія сходы ў сярэдніх школах цяпер вельмі рэдка пагаджаюцца аддаваць навучаць сваіх дзяцей па-беларуску. Але тут трэба зазначыць, што ў заканадаўстве нідзе не прадугледжана, каб бацькоўская грамадзкасьць "вырашала" падобныя пытаньні. Канстытуцыя ***гарантуе выбар мовы навучаньня***, які ў сваю чаргу павінен быць забясьпечаны дзяржавай праз ***наяўнасьць у кожным населеным пункце адпаведных навучальных установаў.***

І хоць на паперы гэта так, у рэальнасьці беларуская мова ў Беларусі зьведзеная да роўню мовы нацыянальнай меншасьці. Бо ніводзін "вэртыкальны" чыноўнік ня стане выконваць закон, калі дакладна ведае аб тым, што "наверсе" ня хочуць, каб ён гэты закон выконваў. І бацькі-беларусы ідуць шляхам найменшага супраціву паводле вядомай прымаўкі: а што мы, мы – як усе...

Адно Таварыства беларускай мовы і лічаныя газэты змагаюцца за кожную беларускую школку.

***Альгерд НЕВЯРОЎСКІ***

ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ, КРЫЧАВЕ І КРУГЛЫМ

***Мяркуецца, што з 1-га траўня адміністрацыя БДСГА ўвядзе платныя адпрацоўкі і штрафы за студэнцкія прагулы.***

Вырашаецца пытаньне і аб платнай паўторнай здачы іспытаў. Кажуць, што 40% усіх сабраных такім чынам грошай пойдуць выкладчыкам, а 60% – у бюджэт Акадэміі.

***Працягвае працу на базе Горацкага інфармацыйнага цэнтру "Школа маладога журналіста".***

Тыя школьнікі й студэнты, якія хацелі паспрабаваць свае сілы ў журналістыцы, днямі прадставілі арганізатарам свае першыя выкананыя заданьні. Лепшыя іхныя працы будуць апублікаваныя ў першым нумары моладзевай газэты "Снайпер", выхад якога заплянаваны на 25-ае сакавіка – з нагоды Дня Волі.

***Натальля КІРЫЕНКАВА***

***Мясцовыя філіі БНФ, БСДГ "НГ" і АГП прынялі рашэньне аб стварэньні аргкамітэту па ўшанаваньні памяці жыхароў Крычаўшчыны, рэпрэсаваных у 1931-53 гг..***

Плянуецца правесьці грунтоўныя дасьледаваньні з мэтаю высьвятленьня як мага больш дакладнай колькасьці пацярпеўшых (на сёньня вядомыя ўжо некалькі сотняў мясцовых палітрэпрэсаваных). Акрамя таго, рыхтуецца заява ў райвыканкам з прапановай вызначыць адмысловае месца ў горадзе, дзе будзе вывешаная памятная дошка, грошы на якую добраахвотна дадуць жыхары раёну.

***Андрэй КУЗЬМІН***



***Падрыхтаваны да друку першы нумар малафарматнай грамадзка-палітычнай газэткі Кругляншчыны "Прамень".***

Над першым выпускам, які засьведчыў сацыяльную скіраванасьць выданьня, працавалі Зінаіда Мялешчанка і Аляксандар Булаўкін. Адкрываецца нумар вершам настаўніцы Філатаўскай СШ Сьвятланы Круцікавай. Шкада аднаго: на 99 адсоткаў "Прамень" зьяўляецца расейскамоўным.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

## Што пераможа?..

***Беларускі Хельсінскі Камітэт распаўсюдзіў Зварот да судзьдзяў, у якім прапанаваў аналіз праблем беларускай судовай сыстэмы й захады па іх разьвязаньні.***

Раней БХК накіраваў Старшыні Вярхоўнага суду Беларусі ліст з просьбаю дазволіць прысутнасьць на Другім зьезьдзе судзьдзяў. Але камітэту адказалі, што "там будзе прэзыдэнт, а таму прасіце дазваленьня ў ягонай аховы" (!?). Між тым, гэты кур'ёзны выпадак можна прызнаць за сымбалічны, бо ў нашай краіне судзьдзі самастойна ня могуць нават вырашыць пытаньне прысутнасьці на сваім (здавалася б) зьезьдзе.

Тым часам БХК лічыць такую сытуацыю небясьпечнай і процізаконнай. Асаблівы клопат праваабаронцаў выклікае тое, што й значная частка грамадзтва лічыць суд толькі прыдаткам рэпрэсыўнай машыны дзяржавы й моўчкі пагаджаецца з гэтым. Вядома, што адмысловая Камісія ААН зрабіла выснову аб неадпаведнасьці беларускай судовай сыстэмы прынцыпам незалежнасьці, кампэтэнтнасьці, староннасьці й справядлівасьці.

У памянёным Звароце БХК просіць судзьдзяў выказацца за незалежнасьць судовай сыстэмы ды ўносіць шэраг канкрэтных прапановаў, якім чынам можна гэтага дамагчыся. Перадусім прапануецца зьмяніць сыстэму прызначэньня судзьдзяў, удасканаліць якасьць іх адукацыі, падвысіць сацыяльны статус, забясьпечыць эфэктыўны кантроль законнасьці рашэньняў, якія выносяцца судамі, зьвярнуцца да ідэі стварэньня суду прысяжных...

Ніводная з гэтых прапановаў, як відавочна, не супадае з тым, што пачулі судзьдзі на сваім нядаўнім зьезьдзе непасрэдна "з высокіх вуснаў". Але БХК арыентуецца на тое, што сярод беларускіх слугаў справядлівасьці ўсё ж ёсьць людзі, якія здольныя паставіць грамадзянскую і прафэсійную годнасьць вышэй за безадказную паслухмянасьць.

***Галіна ЖАРКО***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**Аблвыканкам даручыў вытворчаму мяса-малочнаму аб'яднаньню тэрмінова вырашыць праблему з запазычанасьцю перад калгасамі. Толькі гаспадаркам Клічаўскага раёну, напрыклад, магілёўскі мясакамбінат завінаваціўся паўмільярда рублёў, а Асіповіцкі малочны камбінат таму ж раёну – усе 100 мільёнаў. Калгасаў, якім хоць бы нехта ня быў вінны, наўпрост не існуе. У сваю чаргу яны таксама вінныя ўсім, а больш за ўсё – сваім жа працаўнікам. Не выклікае сумненьняў, што здаўна вядомыя цяжкасьці калгаснага ладу апошнім часам павялічыліся з-за папулізму ўлады падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Ня хочацца быць горкім прарокам, але разьлічвацца за яе давядзецца яшчэ доўга.**

Чарговая сэсія магілёўскага гарадзкога савету дэпутатаў чарговым разам заслухала паведамленьне "аб выніках і прагнозах". Зразумела, што ніхто не прапанаваў ніякіх кардынальных мераў для выпраўленьня заняпаднага стану вытворчасьці. Таму няма надзеі на прыстойны гарадзкі бюджэт. у сваю чаргу гэта значыць, што яшчэ больш будуць пакутваць мэдыцына, асьвета, культура, грамадзкі транспарт, найбольш бедныя гараджане. А зь іншага боку, і дэпутатаў можна зразумець: што яны могуць? Усім кіруе, разьмяркоўвае і ўсё вызначае ўлада выканаўчая. А справаздачыцца яна, як вядома, зусім не перад дэпутатамі.

**У вайсковай частцы, што стаіць каля Пашкава, здарылася надзвычайнае здарэньне. Паставы салдат стрэліў сабе ў галаву з аўтамата. Зараз ягонае жыцьцё намагаюцца ўратаваць мэдыкі. Сьледзтва высьвятляе прычыну і абставіны здарэньня. Найперш, зразумела, вывучаецца вэрсія сьвядомай спробы суіцыду, што для войска – справа, на жаль, цалкам вытлумачальная...**

На ўліку ў міліцыі сёньня па вобласьці звыш 4000 дзяцей і звыш 2000 сем'яў. Імі займаюцца 600 інспэктараў па справах непаўнагадовых. На жаль, як адзначалася на паседжаньні калегіі абласной управы ўнутраных справаў, лічбы дзіцячай злачыннасьці растуць, як расьце і ўзровень правапарушэньняў у пабытовай сфэры. Адно зьвязанае зь іншым. У грамадзтве зь беднай эканомікай, калі бацькам усё часьцей няма куды прыкласьці рукі і галаву, нават 6 тысячаў інспэктараў не ўратуюць абдзеленых увагай і хатнім цяплом дзяцей.

**Паказальныя вынікі працы магілёўскага гандлю прадэманстравала паседжаньне абласной гандлёвай управы. Паводле афіцыйных зьвестак, прыбыткі мелі ў большасьці прыватныя гандлёвыя прадпрыемствы. Калі ў прыватнікаў паказчыкі працы былі вышэйшыя, то дзяржаўныя крамы, гэтыя "бастыёны савецкага гандлю", спрэс далі страты. Пры тым (а можа менавіта таму?), што маюць штату непараўнальна больш. Чыноўнікі галіны вымушаныя былі прызнаць перавагу і перамогу прыватнікаў. Аднак "замахнуцца" на дзяржаўны гандаль ніхто не адважыўся. Няхай й надалей нясе страты і прыносіць урон эканоміцы...**

Паводле рашэньня ўлады, мэдычныя ўстановы мусяць у гэтым годзе зарабіць на платных паслугах ня менш як 10% ад бюджэтнай сумы. Вось як гэта будзе на практыцы. Апэрацыю хвораму зробяць бясплатна, калі гэта будзе "пранікненьне скальпэлю ў тканевыя поласьці". А калі апэрацыя будзе рабіцца на высокатэхналягічным абсталяваньні, з прымяненьнем прагрэсіўных мэтодыкаў, якія не прыносяць чалавеку вялікіх пакутаў і берагуць ягонае цела – плаці! Аднак яшчэ больш зьдзіўляе тое, што доктарам і санітаркам ад гэтай аплаты нічога не дастанецца, бо амаль усе здабытыя такім чынам сродкі пойдуць на забесьпячэньне тых самых "бясплатных" апэрацыяў.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Пасланьнік зьехаў не супакоеным

***Кіраўнік дэлегацыі Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША Стывэн Пайфэр пасьля сустрэчаў на мінулым тыдні з прадстаўнікамі беларускага ўраду зазначыў, што амэрыканскі бок не задаволены тымі тлумачэньнямі, якія далі беларускія афіцыйныя асобы.***

– Я заклікаў іх зрабіць усе магчымыя крокі, каб гарантаваць, што сумнеўныя пастаўкі зброі й вайсковая падрыхтоўка ня будуць мець месца, – заявіў С.Пайфэр. У якасьці прыкладу, які асабліва занепакоіў ЗША, ён назваў выпадак падрыхтоўкі ў Беларусі ірацкіх афіцэраў для працы на супрацьпаветраных комплексах С-300. Па словах афіцыйнага прадстаўніка ўраду ЗША, "ёсьць толькі адна прычына для Іраку рыхтаваць людзей на гэтыя комплексы – каб зьбіваць амэрыканскія самалёты й гелікоптэры, якія выконваюць сваю місію над Іракам згодна з мандатам ААН".

Акрамя гэтага, сп.Пайфэр выказаў занепакоенасьць сваёй краіны тым, што ў Беларусі не адбылося ніякага прагрэсу ў галіне дэмакратызацыі пасьля верасьнёўскіх выбараў, а наадварот – сытуацыя з правамі чалавека пагоршылася. "Урад ЗША ніколі ня меў намеру ізаляваць Беларусь, – падкрэсьліў прадстаўнік Дзярждэпартамэнту ЗША. – Беларускае кіраўніцтва само выбрала шлях, што вядзе да самаізаляцыі". Каб дапамагчы краіне распачаць крокі насустрач вольным нацыям сьвету, сп.Пайфэр прапанаваў беларускім афіцыйным асобам адмысловую амэрыканскую праграму па кантролі за продажам узбраеньняў, а таксама шэраг прапановаў па трансфармацыі сёньняшняй дзяржаўнай сыстэмы РБ з аўтарытарнай у дэмакратычную.

**P.S.** Людміла Карпенка, Вольга Захаранка, Зінаіда Ганчар, Ірына Красоўская, Сьвятлана Завадзкая і Тацяна Клімава перадалі ліст прэзыдэнту ЗША Бушу, у якім просяць яго ўзьняць праблемы палітычных рэпрэсіяў у Беларусі падчас ягонай травеньскай сустрэчы з прэзыдэнтам Пуціным.

***Валер КАЛІНОЎСКІ***



Фота IREX

## ...Бо гарантам ёсьць толькі народ

***На брыфінгу, які быў прысьвечаны вынікам візыту дэлегацыі дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША ў Менск, прагучала пытаньне аб тым, ці застаюцца ЗША й сёньня гарантамі беларускай незалежнасьці.***

Нагадаем, што пасьля Белавескіх пагадненьняў (прымаючы пад увагу добраахвотную адмову тагачаснага ўраду краіны ад утрыманьня на сваёй тэрыторыі ядравай зброі) гарантамі незалежнасьці Беларусі выступілі Злучаныя Штаты, Вялікая Брытанія і Расейскай Фэдэрацыя. Кіраўнік амэрыканскай дэлегацыі сп.Пайфэр адказаў наступным чынам:

– У пытаньні пра амэрыканска-брытанска-расейскія запэўніваньні для Беларусі – я выкарыстоўваю слова "запэўніваньні", якое мае крыху іншае значэньне, чым "гарантыі", – гэтыя запэўніваньні застаюцца дзейнымі.

***Паводле радыё "Свабода"***

## Знакаў хапае, але ж – адмоўных

***Нямеччына чакае ад беларускіх уладаў "станоўчых знакаў", бо інакш ня можа наступіць нармалізацыя адносінаў Беларусі з ЭўраЗьвязам, АБСЭ, Радай Эўропы й самой Нямеччынай.***

Днямі нямецкая амбасада ў Беларусі распаўсюдзіла тэкст выступу на нядаўняй нямецка-беларускай канфэрэнцыі прадстаўніка Міністэрства замежных справаў Нямеччыны Рольфа Шютэ. Паводле гэтага тэксту, немцы чакаюць, каб Беларусь выканала нарэшце знакамітыя чатыры ўмовы, пастаўленыя яшчэ перад парлямэнцкімі выбарамі 2000 году: зьмяненьне заканадаўства аб выбарах на дэмакратычны лад, спыненьне перасьледу апазыцыі, доступ апазыцыйных дзеячаў да электронных СМІ й пашырэньне паўнамоцтваў парлямэнту.

Вельмі негатыўна ацэньвае нямецкі бок шэраг апошніх падзеяў у Беларусі, сярод якіх – наступ уладаў на прафсаюзы й арышты дырэктараў буйных прадпрыемстваў.

Р.Шютэ падкрэсьліў, што Нямеччына гатовая да дыялёгу з нашай краінай, але толькі ў тым выпадку, калі афіцыйны Менск са свайго боку зробіць канкрэтныя станоўчыя крокі насустрач.

***Алесь ДАШЧЫНСКІ***

АБАРАНІ СЯБЕ САМ

## ...Не сыходзячы зь месца

***Цягам мінулага месяцу сябры Магілёўскага праваабарончага цэнтру наведалі амаль палову з 1257-мі судовых паседжаньняў, што праходзілі ў абласным цэнтры.***

Такая ўвага да працы судовых органаў была абумоўленая правядзеньнем МПЦ трохмесяцовага пашыранага маніторынгу выкананьня крымінальна-працэсуальнага заканадаўства. Паводле дадзеных праваабаронцаў, найбольш характэрнае выяўленае парушэньне – гэта невыкананьне прынцыпу галоснасьці і адкрытасьці судовых працэсаў. Каля 35% працэсаў пачыналіся са значнымі затрымкамі ў абвешчаным часе. Кожныя дзевяць з дзесяці судоў адбываліся ня ў залі судовых паседжаньняў, а "пахатняму" – у кабінэце судзьдзі. І толькі кожны дзясяты працэс, які наведалі праваабаронцы, адбываўся з удзелам адваката ці прадстаўніка падсуднага боку.

У сваю чаргу ўлада ў асобе начальніка ўпраўленьня юстыцыі аблвыканкаму сп.Маймусава выказала зацікаўленасьць у правядзеньні падобнага маніторынгу й прызнала справядлівасьць шэрагу заўвагаў праваабаронцаў. Аднак паведамленьня аб тым, ці будуць прынятыя дакладныя захады да выпраўленьня становішча, не прагучала.

***Віталь БЕЛАНОЎСКІ***

## А хто выконваць будзе?

***Чарнобыльская станцыя ўжо закрытая, перасяленьне практычна завершанае, але запатрабаваньні людзей і тэрыторыяў у дапамозе ня зьменшыліся.***

Гэта – адна з высноваў справаздачы Чарнобыльскай місіі ААН. Апошнім часам супрацоўнікі місіі правялі шэраг апытаньняў і дасьледаваньняў у Беларусі, Украіне й Расеі, а таксама сустрэчаў з вучонымі, грамадзкімі дзеячамі й прадстаўнікамі ўладаў трох краінаў.




У справаздачы паведамляецца, што на рак шчытападобнай залозы ў Беларусі, Украіне й Расеі захварэлі больш 2-х тысячаў толькі маладых людзей, і што колькасьць хворых у бліжэйшыя гады можа дасягнуць 8-10 тысяч.

Тым часам паводле дадзеных беларускіх вучоных, толькі ў Беларусі на гэтае захворваньне пакутуюць больш 8-мі тысяч чалавек. А ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі чакаецца рост іншых формаў раку, зьвязаных з узьдзеяньнем радыяцыі.

Асноўнай прычынай дрэннага здароўя насельніцтва ААНаўскія экспэрты прызналі спалучэньне няякаснага харчаваньня, благіх жыцьцёвых умоваў і нездаровага ладу жыцьця. Таму яны прапанавалі "новыя падыходы" да вырашэньня чарнобыльскіх праблемаў: паступовы пераход ад аказаньня тэрміновай гуманітарнай дапамогі да падтрымкі рэабілітацыі й разьвіцьця пацярпелых рэгіёнаў. Прыярытэтнымі сфэрамі павінны стаць экалягічная асьвета ды эканамічная рэабілітацыя. Таксама місія ААН прапанавала Беларусі, Украіне й Расеі пераразьмеркаваць сродкі дзяржаўных праграмаў, каб дапамагаць найбольш пацярпеламу насельніцтву.

А каб навучыць улады трох краінаў, як усё гэта зрабіць, у справаздачы Чарнобыльскай місіі ААН было прадстаўленае апісаньне 20-ці праектаў, накіраваных на рашэньне канкрэтных задачаў – ад падтрымкі мераў радыяцыйнай бясьпекі ў прыватных гаспадарках да падтрымкі інвэстыцыяў у забруджаныя раёны.

***Антон ПРАТАСОЎСКІ***

## З маўклівай згоды раўнадушных...

ПАГОНЯ

Днямі ў Горадні адбылася грамадзкая канфэрэнцыя, прысьвечаная крымінальнаму перасьледу журналістаў зачыненай мясцовай газэты “Пагоня”.

Арганізавалі яе Беларуская асацыяцыя журналістаў, Асамблея няўрадавых арганізацыяў, праваабарончы цэнтар “Вясна” і БХК. Рэдактар “Пагоні” Мікола Маркевіч, зь якога ўзятая падпіска аб нявыезьдзе, з болем паведаміў, што акрамя БАЖу, дагэтуль аніводная грамадзкая арганізацыя альбо партыя афіцыйна ня выступілі ў абарону выданьня і яго супрацоўнікаў. Таксама ён давёў да ведама прысутных адмову гарадзенскіх уладаў на ягоны запыт аб заснаваньні новай газэты.

Між тым, крымінальная справа супраць рэдактара М.Маркевіча й журналіста П.Мажэйкі імкліва набліжаецца да суду. Можа адбыцца самае трагічнае, калі журналістаў асудзяць на пазбаўленьне волі за... іхнае прафэсійнае права мець сваю думку і свабодна яе распаўсюджваць.

Канфэрэнцыя прыняла тэкст заявы да абласной пракуратуры з патрабаваньнем неадкладнага спыненьня перасьледу журналістаў.

***Паводле прэс-рэлізу БАЖ***

“СПАЧАТКУ ПАТРЭБНЫЯ ЗЬМЕНЫ...” (“ТМ” №8): У ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## У свабоды слова няма альтэрнатывы

***Апазыцыйныя дэмакратычныя партыі заклікаюць беларускае грамадзтва і міжнародную супольнасьць выступіць у абарону недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Гэты зварот быў днямі прыняты на паседжаньні Кансультацыйнай Рады апазыцыйных партыяў. Дакумэнт быў перададзены краінам-удзельнікам зімовай сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ, якая нядаўна завяршыла працу ў Вене.***

***Камэнтуюць сытуацыю вядомыя юрысты.***

Зварот Кансультацыйнай Рады ёсьць сьведчаньнем небясьпечнага стану мас-мэдыя ў нашай краіне і, адначасова, сьведчаньнем аўтарытэту самой КР на эўрапейскай палітычнай прасторы. Дзякуючы намаганьням Рады пытаньне аб свабодзе выказваньня і распаўсюджаньня меркаваньняў (менавіта так на міжнароднай цывілізаванай мове гучыць вызначэньне свабоды слова) набыло актуальнае значэньне ў якасьці найпершай умовы пачатку дэмакратызацыі дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця ў Беларусі. Гэта невыпадкова, бо СМІ – ці не адзіная трыбуна для грамадзкай думкі ў любой цывілізаванай краіне.

Беларускія ж дзяржаўныя СМІ шчодра ўтрымліваюцца за кошт бюджэту пры тым, што прэзэнтуюць не грамадзкую думку, грамадзкія спрэчкі, грамадзкія пошукі і грамадзкія інтарэсы, а – выключна пункт погляду групы ўлады. А гэта ёсьць узурпацыяй самога права распараджэньня агульнанацыянальнай маёмасьцю, што наўпрост забаронена Канстытуцыяй (арт.33).

### Прасіць ці патрабаваць?

Зараз у апазыцыйным асяродзьдзі распаўсюджаныя, як вядома, два пукты погляду на рашэньне пытаньня аб свабодзе слова. Адныя лічаць, што апазыцыя “стаіць з працягнутай рукой” перад уладай і выпрошвае такім чынам у яе права на допушчэньне да дзяржаўных СМІ. Іншыя мяркуюць, што з уладай па гэтым пытаньні ўвогуле ніякіх перамоваў весьці ня можна... На наш погляд, абодва гэтыя меркаваньні ўяўляюць сабой крайнія пазыцыі. Першая ня мае рацыі таму, што апазыцыя, у прыватнасьці Кансультацыйная Рада, ніколі не стаяла перад уладай з выцягнутай рукой, а праводзіла перамовы з урадавым бокам з патрабавальных пазыцыяў й менавіта таму дамаглася таго выніку, што ў кастрычніку 1999г. было падпісанае пагадненьне аб допушчэньні палітычнай апазыцыі да дзяржаўных СМІ. (А тое, што яно дагэтуль не выконваецца ўрадам, сьведчыць аб адсутнасьці сумленьня ў рэжыму). Другая пазыцыя наогул, на нашую думку, умацоўвае ўладу, паколькі дае ёй падставу сьцьвярджаць, што апазыцыя нібыта паводзіць сябе “радыкальна” і ўжывае супраць улады “ідэалягічны тэрарызм”.

Праўда, як заўсёды – пасярэдзіне. Кансультацыйная Рада сапраўды пазьбягае “рэвалюцыйных” паводзінаў, бо прынцыпова дзейнічае ў межах і на падставе Канстытуцыі, беларускага і міжнароднага заканадаўства. Яна не патрабуе анічога звышнатуральнага. У адносінах да СМІ яе патрабаваньні юрыдычнага, а не палітычнага характару.

### Чаго ж дамагаецца Рада?

Па-першае – выкананьня памянёнага вышэй кастрычніцкага Пагадненьня аб допушчэньні палітычнай апазыцыі да дзяржаўных СМІ, асабліва – да БТ. Яшчэ з часоў Старажытнага Рыму існуе правіла: дамовы павінны выконвацца. Хто ня робіць гэтага, той назаўсёды пазбаўляецца даверу і аўтарытэту. Дадатковага камэнтару тут не патрэбна: у нашым выпадку, як гаворыцца, усё ясна.

Па-другое – стварэньня роўных умоваў для дзейнасьці СМІ ўсіх формаў уласнасьці. Між іншым, гэтае патрабаваньне цалкам адпавядае Канстытуцыі (арт.13), а гэта значыць, што яно абавязковае для выкананьня. Хто не выконвае гэтае палажэньне? Пытаньне залішняе...

Па-трэцяе – прывядзеньня заканаўства аб СМІ ў адпаведнасьць, як цяпер прынята казаць, з агульнапрызнанымі міжнароднымі стандартамі. І гэтае патрабаваньне таксама прадыктаванае Канстытуцыяй, якая прызнае (арт.8) прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў Міжнароднага права. Невыпадкова (хаця й цынічна гучыць) у новай рэдакцыі Закону аб СМІ, якую ў хуткім часе Міністэрства інфармацыі прадставіць для зацьверджаньня дэпутацкай “палаце”, ёсьць прызнаньне таго, што ў сфэры мас-мэдыя першаступеннае значэньне маюць міжнародныя дамовы, што ратыфікаваныя Беларусьсю. Справа, такім чынам, простая – трэба пазбавіць нашае заканадаўства ад тых палажэньняў, якія супярэчаць гэтым самым дамовам і нормам.

Па-чацьвертае – каб раз і назаўсёды спыніць умяшальніцтва пракуратуры, праваахоўных інстанцыяў і КГБ у законную журналісцкую дзейнасьць. На жаль, апошнім часам гэтае ўмяшальніцтва сталася ці не будзённай справай. Найбольш відавочны і гучны прыклад – закрыцьцё з ініцыятывы гарадзенскіх пракуратуры і КГБ газэты “Пагоня”.

Па-пятае – дэманапалізацыі дзяржаўнага тэлебачаньня і радыё, прадпрыемстваў паліграфіі, сыстэмы распаўсюду СМІ. Наўрад ці, паколькі пытаньне гэтае хутчэй палітычна-эканамічнае, чым чыста юрыдычнае, выпадае спадзявацца, што гэта будзе зроблена бліжэйшым часам. Але гучаць такое патрабаваньне мусіць як з боку Рады і ўсёй апазыцыі, так і з боку міжнародных структураў.

Па-шостае – стварэньня сыстэмы грамадзкага кантролю за дзейнасьцю СМІ. Падобная сыстэма існуе і плённа працуе ва ўсіх цывілізаваных краінах. Менавіта яна служыць гарантам недапушчэньня ўмяшальніцтва дзяржавы і фінансовых алігархаў (будуць яны і ў нас!) у прафэсійную дзейнасьць журналістаў.

Па-сёмае – сфармаваньня пастаянна дзеючай групы экспэртаў зь ліку міжнародных і беларускіх спэцыялістаў па вывучэньні і маніторынгу сытуацыі ў беларускіх СМІ. Без уплыву такой групы на рэфармаваньне заканадаўства і на самую нашу сытуацыю з мас-мэдыя будзе надзвычай цяжка забясьпечыць цывілізаваную працу СМІ і ўвогуле тое, што называецца свабодай слова.

### Куды ідзем?

Уяўленьні дэмакратычнай апазыцыі і цяперашняй улады аб шляхах разьвіцьця журналістыкі і ўласна СМІ, як гэта ўсім відавочна, радыкальна разыходзяцца. З гэтага тым больш вынікае задача пашырэньня і ўмацаваньня палітыка-грамадзкага змаганьня за дэмакратычнае і прагрэсіўнае разьвіцьцё краіны.

Трэба, каб нашае грамадзтва ясна разумела, што альтэрнатывы свабодзе слова як сродку пабудовы дэмакратычнай, заможнай і цывілізаванай краіны папросту не існуе!

***Міхаіл ПАСТУХОЎ,***
***Юры ТАПАРАШАЎ,***
***экспэрты па СМІ пры Кансультацыйнай Радзе апазыцыйных палітычных партыяў***

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

## Пяць месяцаў натхняючага трываньня

***У мінулую нядзелю споўнілася роўна пяць месяцаў, як у Курапатах пачалася патрыятычна-моладзевая вахта памяці. Многія людзі прыйшлі павіншаваць валанцёраў з гэтай датай, прынесьлі ім пірагоў і прысмакаў.***

А тым часам у грамадзтве пашыраецца дыскусія аб тым, ці патрэбны Курапатам помнік і, галоўнае, якім ён мусіць быць. Да яе днямі далучыўся пісьменьнік Анатоль Вярцінскі, пры чыім рэдактарстве ў газэце “Літаратура і мастацтва” у 1989 годзе былі надрукаваныя першыя артыкулы аб гэтым трагічным месцы. “Тады, – узгадвае пісьменьнік, – у мяне было цьвёрдае меркаваньне аб тым, што помнік павінен адказваць на пытаньне “За што?”. А на сёньняшні дзень я схіляюся да думкі, што манумэнтальнага ўвасабленьня там увогуле ня трэба ствараць. Можа, сапраўды гэта павінен быць помнік ляндшафтна-паркавага характару. Але ў любым выпадку я мяркую, што ва ўсім грамадзтве патрэбная на гэтую тэму зацікаўленая гаворка”.

Паводле Анатоля Вярцінскага, невыпадкова, што менавіта ў Беларусі больш чым праз дзесяць гадоў ізноў узьнялася хваля грамадзкай цікаўнасьці да гісторыі палітычных рэпрэсіяў, тады як у іншых краінах былога Савецкага Саюзу гэтая тэма цяпер менш актуальная. Зрэшты, там ужо ёсьць помнікі ахвярам палітычных рэпрэсіяў. А ў нас дагэтуль улады не пакаяліся й не ўшанавалі памяць бязьвінных ахвяраў сталінскага генацыду...

***Ганна СОУСЬ***

## ШТО НА ТЫДНІ... У КАСЬЦЮКОВІЧАХ І БАБРУЙСКУ



***У межах працы Рады па падтрымцы недзяржаўных арганізацыяў і ініцыятываў усходу Магілёўшчыны адбылося пазачарговае выяздное паседжаньне актывістаў-ініцыятараў.***

На сустрэчу былі запрошаныя прадстаўнікі мясцовай грамадзкасьці, палітыкі, проста актыўныя людзі. Былі распрацаваныя накірункі супрацоўніцтва пад згідай Крычаўскага грамадзкага аб'яднаньня “Кантакт-цэнтар”. Асноўнымі накірункамі пэрспэктыўнага разьвіцьця мясцовага трэцяга сэктару былі акрэсьленыя прававая абарона і распаўсюд незалежнай інфармацыі.

***Андрэй КУЗЬМІН***



***Днямі ў самым цэнтры горада, над памятным знакам ахвярам палітычных рэпрэсіяў быў учынены акт вандалізму.***

Нехта пашкодзіў левае крыло помніку, а таксама скраў каля дзесяці мэтраў сьценкі з чырвонай абліцаванай цэглы. Грамадзкае аб'яднаньне “Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў” накіравала адпаведную заяву ў пракуратуру.

***Віктар КАЧАН***

## Справа, зразумела, ня ў слове...

***Упраўленьне юстыцыі Берасьцейскага аблвыканкаму падало ў суд зыскавую заяву аб ліквідацыі грамадзкага аб'яднаньня “Берасьцейскі абласны цэнтар падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў “Вежа”.***

Яшчэ летась упраўленьне юстыцыі вынесла “Вежы” два пісьмовых папярэджаньні. Першае – за тое, што цэнтар правёў “несанкцыянаванае” сацыялягічнае апытаньне аб тым, што думаюць берасьцейцы напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Тады ж гэтае папярэджаньне прызналі абгрунтаваным Берасьцейскі абласны і Вярхоўны суд Беларусі.

А цяпер “Вежу” папярэдзілі за “незаконнае выкарыстаньне назвы аб'яднаньня, якое не прайшло дзяржаўнай рэгістрацыі”. За парушэньне прызналі выкарыстаньне ў афіцыйных дакумэнтах і на пячатцы цэнтру слова “Берасьцейскі” (як, дарэчы, і трэба па-беларуску) замест “Брэсцкі”, якое значыцца ў “афіцыйнай рэгістрацыі”.

Трэба адзначыць, што цэнтар “Вежа”, які дзейнічае на грамадзкай ніве ўжо 4-ты год, асаблівую ўвагу надае абароне правоў і свабодаў чалавека, а ягонымі партнэрамі зьяўляюцца больш за 130 арганізацыяў вобласьці. У праграмах і праектах арганізацыі бяруць удзел працаўнікі культуры й адукацыі, настаўнікі й вучні, студэнты й выкладчыкі, юрысты, прадпрымальнікі й журналісты.

***Генадзь КЕСЬНЕР***

# Анамальная зона

***Завяршаецца маладафронтаўская акцыя “Беларусь – у Эўропу!”.***

За гэты час культурніцкаю прапагандаю былі ахопленыя шмат якія гарады ды мястэчакі Беларусі, у тым ліку – усходнія раёны Магілёўшчыны ды Гомельшчыны. І хоць гэты рэгіён лічыцца даволі складаным у сэньсе правядзеньня апазыцыйных мерапрыемстваў, аказалася, што няўдача напаткала маладых прапагандыстаў эўрапейскага шляху Беларусі толькі ў Шклове.

Як выказаўся лідэр МФ Павал Севярынец, “гэта сапраўды нейкая анамалія на мапе Беларусі – адзіны горад у краіне, дзе на сёньня ў Эўропы аказалася меней прыхільнікаў, чым дзе”. Ён паведаміў, што “нас там вельмі непрыязна сустрэлі, а некалькі груп актывістаў нават ня здолелі скончыць раздачы агітацыйных матэрыялаў – іх літаральна павыганялі з вуліц пэнсіянэры, агрэсіўна ставіліся да ўдзельнікаў



акцыі й некаторыя маладыя людзі”.

***Паводле інф. агенцыяў***

# Белы замак, беларускі

***Сёньня ў менскім Палацы дзяцей і моладзі распачынаецца Пяты міжнародны фэст сярэднявечнай культуры і музыкі “Белы замак-2002”.***

Навінкай мерапрыемства павінен стаць конкурс пастановачных спаборніцтваў па абароне “замкавай брамы”. Гледачы ўбачаць бойку, прысьвечаную бітве на Нямізе, турнір лучнікаў і арбалетчыкаў. У канцэртнай праграме фэсту возьмуць удзел розныя беларускія музычныя гурты. Да ўсяго запланаваная таксама тэатральная праграма па матывах сярэднявечных францускіх легендаў. Арганізатарам фэсту выступіў Ордэн Паўночнага Храма зь Менску пры падтрымцы фірмы “Стальіндустрыя” і Польскага Інстытуту.

***Віталь БЕЛАНОЎСКІ***

ЛІТАРАТУРНА-“ПАЛІТЫЧНАЯ” ГАСЬЦЁЎНЯ “ТМ”

# Не пасада дае элітарнасьць

***“Мне ня страшна за сабой паліць падгнілыя масты маёй эпохі”, – напісаў Генадзь Бураўкін у той час, калі быў міністрам. Рэч у тым, што самыя высокія чыноўніцкія крэслы й самыя шырокія прыўладныя лавы мізарнеюць, калі на зьмену партыйным статутам прыходзіць напісаны ўласным розумам, гонарам і сумленьнем кодэкс...***

***Генадзь Бураўкін – паэт, колішні прадстаўнік Беларусі ў ААН, былы кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі, у 1995-ым сышоў зь дзяржаўнай службы й з тае пары адкрыта падтрымлівае апазыцыю сёньняшняму рэжыму. Пра сучасную палітычную сытуацыю ў краіне й ня толькі пра яе з Г.Бураўкіным размаўляў карэспандэнт радыё “Свабода”.***

*– Генадзь Мікалаевіч, цяпер няма такога лідэра й такой арганізацыі, вакол якіх канцэнтраваліся б апанэнты ўлады...*

**Бураўкін:** Сапраўды, у грамадстве назіраецца пэрыяд апатыі й расчараваньня, нават – разгубленасьці. Але рабіць з пройгрыша на выбарах трагедыю ня трэба. Гэта толькі сьведчыць пра нясталасьць як нашых палітычных партыяў, гэтак і ўсёй грамадзянскай супольнасьці. Мы, беларусы, абавязкова хочам бачыць перад сабой лідэра. Але мы пераможам толькі тады, калі зразумеем, што ўся справа – ня ў лідэры, а ў нацыянальнай ідэі. Пакуль мы ўсе не адчуем, што вырашаецца лёс беларускай дзяржаўнасьці, мы заўсёды будзем шукаць сабе нейкага апраўданьня – то лідэр ня той аказаўся, то дапамога не з таго краю прыйшла. Выйсьце адно – у нацыянальнай ідэі, у нацыянальным згуртаваньні.

*– Але ці магчыма згуртаваць грамадзтва, ня маючы арганізаванай, салідарнай эліты?..*

**Бураўкін:** Свой заклік да народу, да міжнароднай супольнасьці беларуская нацыянальная эліта зрабіла. Я маю на ўвазе Усебеларускі зьезд за незалежнасьць. Калі мы адчулі пагрозу, якая навісла над нашай незалежнасьцю, то зрабілі тое, што маглі зрабіць – мы склікалі і правялі Зьезд. Я лічу, што нашыя палітычныя партыі нясьпелыя й недальнабачныя. Яны ня толькі не падхапілі гэтую гістарычную справу, але адсунулі яе на другі плян...

Самае галоўнае – гэта пытаньне беларускай незалежнасьці. Паглядзіце, як пад нашую эканоміку хітра й падступна падкопваюцца імпэрскія шавіністычныя сілы Расеі. Паглядзіце, як паступова ўлада пачынае здаваць ім нашыя найлепшыя прадпрыемствы. У гэткіх умовах палітыкі павінны працаваць на тое, каб людзі зразумелі, што мы сёньня можам страціць нашую дзяржаўнасьць, за якую змагаліся вякамі. Трэба сказаць, што нашыя ўлады ўвогуле не прыслухоўваюцца да беларускай інтэлігенцыі. Можа, яны лічаць, што эліта – гэта яны самі, а ня тыя выдатныя таленты, якімі мы ганарымся – Янка Брыль, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч...

*– Раней было прынята лічыць, што шмат якія антыбеларускія дзеяньні ўлады зробленыя Ў.Замяталіным. Цяпер яго няма, але русіфікацыя працягваецца...*

**Бураўкін:** Горка ня тое, што Замяталін і да яго падобныя, знаходзячыся на дзяржслужбе, адкрыта выказвалі й выказваюць сваю пагарду да ўсяго беларускага. Горка тое, што ў нашай краіне гэта становіцца ледзь ня правілам. Гэта выдатна відаць па беларускім тэлебачаньні: адышоў Кісель – прыйшоў Чыкін, адышоў Чыкін – прыйшоў Рыбакоў. Усе гэтыя людзі ня робяць абсалютна ніякіх паправак ні на час, ні на памылкі ў працы, ні на той бязсрэчна непрафэсійны ўзровень, які дэманструе тэлебачаньне.

*– Ці можа адкрыцьцё яшчэ аднаго канала паўплываць на лібэралізацыю айчыннага тэлеэфіру?*

**Бураўкін:** Вельмі хацелася б. Але скажу шчыра – я ў гэта абсалютна ня веру. Рыбакоў аднойчы сказаў вельмі цікавую рэч: маўляў, пры чым тут кадры, былі б грошы, мы б купілі маскоўскіх тэлепрафэсіяналаў, і яны нам зрабілі б выдатнае тэлебачаньне... Запомніце адну простую й важную рэч: беларускае тэлебачаньне ані нэгры з Алябамы, ані прафэсіяналы з Масквы зрабіць ня змогуць. Бо яны не адчуваюць гэтай зямлі, душы гэтага народу.

***Міхась СКОБЛА***

# Адна літара

***Гэтая расьцяжка над Першамайскай вуліцай непадалёк ад мэмарыяльнай плошчы, на якой дагэтуль у абласным цэнтры сьвяткуюцца ўсе савецка-патрыятычныя даты, спакойна правісела ўвесь перадвайсковы лютаўскі тыдзень. Памылка не была заўважаная ні тымі, хто зацьвярджаў гэты нязграбны тэкст пра “защитников Вооружённых сил”, ні тымі, хто пераносіў яго на транспарант, ні тымі, хто ўхваліў канчатковы выгляд расьцяжкі, ні тымі, хто яе замацоўваў. Не зьвярнулі на яе ўвагу гараджане, вэтэраны, начальства. Тлумачэньне адно: ніхто не чытаў, склізанулі вачымі па трафарэтных словах – і тут жа забыліся на іх.***

***Зразумець можна, бо ўсё на транспаранце чужое: сьвята, гісторыя, мова. Не заўважылі б памылку й мы, каб не прыцягнула да сябе ўвагу адзінае на транспаранце роднае слова – Беларусь, якое й спаганіла прапаўшая адна літара. Але недарэчнасьць гэтая шмат пра што сказала...***

***Найперш – пра нас саміх і нашую ўладу. Мо й сапраўды мы яшчэ не беларусы, а нейкія невядомыя сьвету*** *беларсы.* ***І маем, адпаведна, такую ж*** *беларскую* ***ўладу і жывем экзатычным*** *беларскім* ***жыцьцём у нікому не зразумелай беларскай краіне.***

***Так і будзем дзівіць нашчадкаў і ўвесь Боскі сьвет, пакуль ня вернецца літара на сваё месца: у сваім слове, на сваёй мове, у сваёй краіне...***

***“Тыднёвік”***




Фота Д.Новікава

# У чаканьні поўнай неадпаведнасьці

***Пяты месяц працягваецца супрацьстаяньне Магілёўскага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту й начальніка міліцыі Слаўгарадзкага раёну А.Балдышэўскага. (Чытачы “ТМ” добра інфармаваныя пра службовыя і неслужбовыя паводзіны гэтага падпалкоўніка).***

Старшыня аддзяленьня Ўладзімер Краўчанка сьведчыць, што дамагчыся справядлівасьці ў інцыдэнтах з удзелам высокіх міліцэйскіх чыноў вельмі цяжка. Звароты ў любыя інстанцыі звычайна не даюць плёну, бо ў нас працягваецца вядомая “савецкая практыка” вяртаньня скаргаў і зваротаў з рэспубліканскіх інстанцыяў у абласныя, з абласной – у раённыя і г.д. Пакуль максымум, на што адважылася абласное ўпраўленьне ўнутраных справаў у дачыненьні да Слаўгарадзкага начальніка – гэта вынясеньне папярэджаньня падпалкоўніку Балдышэўскаму “пра няпоўную службовую адпаведнасьць”.

Тым часам, паводле зьвестак БХК, А.Балдышэўскі ўжо звольніў дваіх падначаленых, якія скардзіліся на яго праваабаронцам. Калегі звольненых цяпер ня вераць, што справа можа скончыцца справядлівым разьбіральніцтвам і пакараньнем іхнага “усясільнага” начальніка. Аднак і Ў.Краўчанка ня думае скарацца й падрыхтаваў новую скаргу Генэральнаму пракурору.

***Ганна ЮРЧАНКОВА***










**Гэтыя навінкі друку кожны цікаўны можа прыдбаць у спадара АЛЕСЯ, пазваніўшы ў Магілёве на нумар 8-0296-25-57-85.**

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 9. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 28.02.2002 г. а 17.07